*Не ведаючы пра што гавораць людзі, нельга пазнаць людзей».*
**Канфуцый**

# МАЗЫРСКІЯ ВЕДАМАСЦІ

**Інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь** **№ 7, жнівень, 2000**

# БЕЛАРУСЬ – ГЭТА СВЯТОЕ.

***29 ліпеня ў Мінску прайшоў Усебеларускі З"езд за Незалежнасць. З Мазыра на З"ездзе прысутнічалі 11 чалавек, якія прадстаўлялі шэраг грамадскіх аб"яднанняў і палітычных партыяў. Акрамя вылучэння ў сваіх арганізацыях усе яны сабралі больш за 100 (неабходных для рэгістрацыі) подпісаў грамадзян горада. Трэба адзначыць, што асаблівых цяжкасцяў са зборам подпісаў не было. Большасць людзей вызначылась на карысць самастойнай і незележнай Беларусі.***

На Ўсебеларускі З"езд за Незалежнасць было вылучана 1400 чалавек. Сабралася 1356 дэлегатаў з усіх куткоў Беларусі. Заля Палаца культуры тонкасуконнага камбіната, разлічаная на 800-900 чалавек, была поўнасцю запоўненая людзмі, нават сядзелі ў праходах, стаялі на лесьвіцы, ў дзвярах. Па запатрабаванню пажарнікаў, ахова спыніла доступ дэлегатаў у залю і вывела людзей з праходаў у фае, куды трансліравалась паседжанне З"езду. (Дарэчы, ахову З"езду выконвалі прадстаўнікі самых радыкальных беларускіх нацыяналістычных арганізацыяў). Было цёплае сонечнае надвор"е, сярод дэлегатаў панавала вельмі ўрачыстая атмасфера.

Вялш Вялікі Сход сустаршыні аргкамітэту: Генадзь Бураўкін, Рыгор Барадулін, Радзім Гарэцкі. Прывітанні З"езду даслалі Васіль Быкаў, прэзідэнт Чэхіі Вацлаў Гавел, Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла, Старшыня ВС 13 склікання Сямён Шарэцкі, старшыня Народнага Руху Украіны Генадзь Ўдавенка, старшыня КХП-БНФ Зянон Пазьняк і шмат іншых прадстаўнікоў міжнароднай грамадскасці. За З"ездам назіралі амбасадары Польшчы, Украіны, Францыі. Вагу і велічнасць З"езду надала прысутнасць і ўдзел у ім шырокага кола беларускай эліты. Сярод дэлегатаў было больш за 20 толькі акадэмікаў і дактароў навук, вялікая колькасць навуковых супрацоўнікаў, пісьменнікаў. І што прыемна ўражвала, было шмат моладзі.

Урачыстае паседжанне адкрыў пісьменнік Генадзь Бураўкін. З галоўным дакладам выступіў акадэмік Радзім Гарэцкі, у якім ён грунтоўна прааналізаваў становішча ў краіне. Анатоль Грыцкевіч асвяціў гістарычныя рысы незалежнасці Беларусі. Вельмі натхнёным і ўзрушаным было выступленне Ніла Гілевіча. Выступілі Міхаіл Чыгір, Таццяна Працька, Рыгор Барадулін, Генадзь Грушавы, Алексей Кароль ...

Пасля нешматлікіх, але прынцыповых спрэчак аднагалосна быў прыняты Акт Незалежнасці.

І што б ні казалі цяперашнія ўлады аб гэтым дакумэнце, ён выражае адносіны вельмі аўтарытэтнай і актыўнай часткі беларускага грамадства да неабдуманага кроку пасягнуць на наш суверэнітэт. Менавіта сёняшнім кіраўнікам беларусі і ўсім палітыкам за яе межамі мы як бы гаворым: асцярожна, хлопцы! Добрасуседскім адносінам – так! Але ёсць рэчы, якія бруднымі рукамі чапаць нельга. Суверэнітэт Беларусі – гэта святое.

***Уладзімір Целяпун,***
***удзельнік Усебеларускага З'езда за Незалежнасць.***



***Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч выступае на З'ездзе***

## ДУМКІ ЎСЛЫХ...



*ад Зянона Пазьняка*

Характар акупацыйнага рэжыму заўсёды вызначаецца ў адносінах да акупаванага насельніцтва. Які б ні быў унутраны нацыянальны лад, якой бы ні была жорсткай дыктатура і дзяржаўная ўлада, яна ніколі не будзе зачыняць свае нацыянальныя школы і ўводзіць навучанне на мове чужой краіны, яна не будзе пераследаваць людзей сваёй нацыі, каб даць прыярытэт чужой. Абсалютна выключаецца, каб унутраны дыктатар змяншаў бы сваю ўладу і імкнуўся б знішчыць суверэнітэт краіны, у якой сам уладарыць, каб стараўся паставіць яе ў залежнасць ад чужой дзяржавы, ад чужога войска, хацеў бы ўвесці чужыя грошы і г. д. На Беларусі мы бачым якраз гэтакую, на першы погляд, дзіўную і ўражліваю карціну. Прадстаўнікі ўлады ў Беларусі, існуючая адміністрацыя, можна сказаць, зневажаюць чалавека і адмаўляюць яму ў патрэбе толькі за тое, што ён беларус, ці за тое, што звяртаецца па-беларуску. Гэта вельмі дзіўна выглядае ў краіне, дзе каля 90 працэнтаў нацыі – беларусы ( па афіцыйнам перапісе – каля 82 працэнтаў).

З боку існуючай ўлады, міліцыі і жаўнераў рэжыму цынічна дэманструецца крайняя непавага да беларусаў, да беларускай зямлі, мовы, культуры, нацыянальных сімвалаў і святынь. Не мае значэння, хто апынецца перад службістам у пагонах: старая беларуская кабета ці маладая дзяўчына, студэнт ці акадэмік і паўсюдна вядомы вучоны, валацуга ці вялікі беларускі мастак. Гэта для іх усё роўна. Усе аднолькавыя. Усе беларусы, "нацыяналісты", "дзярмо", "ушывыя блохі".

Адбылася ўнутраная акупацыя краіны, ажыццёўленая расійскімі спецслужбамі, якія выкарысталі савецкія механізмы беларускай ўлады, свайго стаўленіка Лукашэнку і наменклатурны аппарат савецкай каланіяльнай адміністрацыі.

*Працяг на старонцы 8*

# Акт Незалежнасці Беларусі

Мы, дэлегаты Усебеларускага З"езда, паўнамоцныя прадстаўнікі наода Беларусі,

– усведамляючы адказнасць за будучыню краіны;

– нагадваючы, што Рэспубліка Беларусь з"яўляецца дзяржавай-заснавальніцай Арганізацыі Аб"яднаных Нацый;

– грунтуючыся на прынцыпах і нормах міжнароднага і нацыянальнага права,

**заяўляем:**

беларускі народ мае тысячагадовую гісторыю сваёй дзяржаўнасці: ад Полацкага княства, Вялікага Княства Літоўскага, Беларускай Народнай Рэспублікі да сучаснай Рэспублікі Беларусь. Прынятая Верхоўным Саветам 27 ліпеня 1990 года Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце сцвярджае яго дзеля галоўнай мэты – свабоднага развіцця і дабрабыту, годнага жыцця кожнага грамадзяніна Беларусі. Яна абвяшчае незалежнасць краіны ў вонкавых дачыненнях, вяршэнства, самастойнасці і паўнату дзяржаўнай улады, дзеючай на падставе правамоцных законаў. Любыя дзеянні супраць суверэнітэту Беларусі і нацыянальнай дзяржаўнасці недапушчальныя і павінны карацца як найвялікшае злачынства.

Дзяржаўны суверэнітэт быў замацаваны ў Канстытуцыі, прынятай 15 сакавіка 1994 года. Паводле яе, Беларусь увайшла ў свет як нейтральная, мірная і без"ядзерная дзяржава. Незалежнасць Беларусі з"яўляецца набыткам не толькі сёняшняга пакалення, але і нашых продкаў і належыць нашчадкам. Суверэнітэт краіны не можа быць абмежаваны альбо скасаваны праз рашэнні дзяржаўных асоб і органаў, нават праз рэферэндум.

Сёння незалежнасць Рэспублікі Беларусь знаходзіцца пад пагрозай. Рэальнай небяспекай стаў дагавор аб стварэнні так званай саюзнай дзяржавы з Расіяй, падпісаны 8 снежня 1999 года прадстаўнікамі беларускіх уладаў, чыя легітымнасць не прызнаецца ў большасці краін свету. Мы – за добрыя, раўнапраўныя і ўзаемавыгадныя адносіны з усімі краінамі свету, і асабліва з суседзямі: Расіяй, Украінай, Польшчай, Літвой, Латвіяй. Але мы не жадаем станавіцца рэгіёнам іншай дзяржавы. Мы не дазволім ліквідаваць нашу незалежнасць і абмежаваць наш суверэнітэт, знішчыць нашу краіну.

Незалежнасць – гэта натуральнае права ўсяго народа, кожнага грамадзяніна. Толькі яна і толькі дзяржаўны суверэнітэт адкрываюць шлях нашай краіне ў еўрапейскую і міжнародную дэмакратычную супольнасць.

Мы, дэлегаты Усебеларускага З"езда,

**СВЕДЧЫМ**

Богам і гісторыяй дадзенае нашаму народу права мець сваю незалежную дзяржаву з яе адвечнымі сымбалямі – бел-чырвона-белым сцягам і гербам "Пагоня";

**АБВЯШЧАЕМ**

незалежнасць і дзяржаўны суверэнітэт неад"емнай каштоўнасцю беларускага народа,

**ПРЫЗНАЁМ**

не маючымі законнай сілы любыя пагадненні і рашэнні, скіраваныя на скасаванне альбо абмежаванне суверэнітэта Беларусі;

**ЗАКЛІКАЕМ**

усіх грамадзян Беларусі і ўсіх суайчыннікаў за мяжой згуртавацца вакол ідэі Акта Незалежнасці Беларусі, бараніць незалежнасць Айчыны;

парламэнты і ўрады дэмакратычных дзяржаў, міжнародные арганізацыі і сусветную грамадкасць забяспечыць гарантыі суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

**Жыве Беларусь!**

*Прынята Ўсебеларускім З"ездам 29 ліпеня 2000 года ў Менску.*

# Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны




***Наша мова для нас святая, яна нам богам даная…***

Францішак БАГУШЭВІЧ.

**Беларуская мова** – аснова і складовая частка кожнага з нас. Яна дае нам больш глыбокае разуменне саміх сябе, звязвае нас з нашым мінулым.

Беларуская мова – унікальная мова, створаная шматлікімі пакаленнямі нашых папярэднікаў дзеля таго, каб задавальняць нашы патрэбы як патрэбы беларускага народа.

**Беларуская мова** наймацнейшая і найвыразнейшая прыкмета нашай нацыянальнай тоеснасці. Некаторыя людзі сутыкаюцца з гэтым упершыню, калі выязджаюць за мяжу. Вярнуўшыся, яны пачынаюць размаўляць па-беларуску, каб пацвердзіць сваю прыналежнасць да нацыі беларусаў. Наша беларуская тоеснасць будзе яшчэ больш важнай, калі стане часткай еўрапейскай супольнасці.

Наша бачанне свету і спосаб яго аналізу глыбока ўкаранёны ў беларускай мове, якая дае нам арыгінальнае бачанне навакольнага свету, якое грунтуецца на гісторыі і досведзе беларускага народа. Яна ўзбуджае ў нас нацыянальную самапавагу, гонар тым, што мы беларусы, дапамагае нам адносіцца да навакольнага свету станоўча і з даверам. Важнасць нацыянальнай мовы і культуры ў падтрымцы палітычнай і эканамічнай незалежнасці даўно ўсім вядомыя.

**Вывучэнне беларускай мовы** – гэта важны складовы элемент развіцця кожнага беларускага дзіцяці. Мы павінны стварыць ім як мага лепшыя магчымасці дзеля таго, каб яны маглі належным чынам ацаніць іхнюю культуру, іхнюю спадчыну. Веданне беларускай мовы з малых гадоў добра дапамагае ў вывучэнні іншых моў, асабліва славянскіх і заходнееўрапейскіх. Яно пашырае разумовыя здольнасці дзіцяці і дае разуменне розных моўных структур. Беларуская мова дае дзецям давер да саміх сябе і ўменне працаваць з іншымі мовамі і культурамі.

**Беларуская мова** была перададзеная нам нашымі папярэднікамі. Справа гонару для нас – перадаць яе наступным пакаленням.

**Беларуская мова мае** вялікае значэнне нашай будучыні.

Нашы рашэнні адносна нашай будучыні павінны зыходзіць ад нас саміх з разуменнем таго, што мы можам пераадолець нашы праблемы, з таго, што мы незалежныя і пакладаемся самі на сябе.

Падтрымка і ўзнаўленне ў правах нашай нацыянальнай мовы – гэта самы надзейны шлях да таго, каб мы сталі давяраць сабе як цывілізаванаму народу.

***

- Калі ты свядомы беларус ці хочаш стаць ім,
- калі ты любіш Радзіму – Беларусь

*альбо*

- жадаеш навучыцца любіць яе,
- калі шануеш родную мову і хочаш захаваць яе для нашчадкаў,

тады ТБМ – ДЛЯ ЦЯБЕ!

***Адрас сядзібы ТБМ:* 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13, кантактныя тэлефоны: 284 – 85 – 11, 213 – 43 – 52.**

ТБМ існуе за кошт ахвяраванняў сярод сяброў ТБМ і прыхільнікаў. Калі ў цябе няма часу, каб самому ўзяць удзел у дзейнасці Таварытства, але крыўдна за стан роднай мовы, ты можаш зрабіць свой унёсак у яе адраджэнне матэрыяльна.

***Таварыства беларускай мовы*** – гэта арганізацыя, у якой аб"ядналіся грамадзяне з мэтай культурна-асветніцкай дзейнасці ў галіне адраджэння беларускай мовы і праз яе – усёй беларускай нацыя-нальнай культуры.

***Галоўная задача ТБМ*** – адраджэнне беларускай мовы ў дзяржаўным, грамадскім і духоўным жыцці народа.

***Аснова ТБМ*** – першасныя супол-кі і раённыя (гарадскія), абласныя арганізацыі. Суполкі ствараюцца па тэрытарыяльных і вытворчых прынцыпах, пры наяўнасці не менш як тры сябры ТБМ.

***Сябры ТБМ абавязаны*** імкнуцца дасканала авалодаць беларускай мовай, карыстацца ёю ў штодзённым ужытку, сям"і, на працы…

***ТБМ мае права выдавецкай дзейнасці*** і свой перыядычны друкаваны орган, штотыднёвую газету "Наша слова" (падпісны індэкс 63865).

***Ці ведаеце вы што…***

- беларускай мове амаль тысяча гадоў;
- кнігадрукаванне мастацкай літаратуры на беларускай мове пачалося нашмат раней, чым на рускай мове;
- у часы Вялікага княства Літоўскага беларуская мова была не толькі дзяржаўнай, але і з"яўлялася мовай дыпламатычных зносін;
- самы вялікі збор фальклору ў краінах Цэнтральнай і Ўсходняй Еўропы зафіксаваны на беларускай мове;
- *у наш час сярод студэнства і моладзі свабоднае валоданне беларускай мовай з"яўляецца прыкметай шляхетнасці, адукаванасці і прыналежнасці да маладых беларускіх элітаў.*

## ЗАКОН, МОРАЛЬ, ВЛАСТЬ.

# «ХОЖДЕНИЕ ПО НЕРВАМ»

***Владимир Андреевич! Так как редакция газеты "Жыццё Палесся" отказалось печатать наше письмо, прошу оказать содействие в информировании общественности по данному вопросу.***
***Председатель ЖСК-25 «Квадра» И. В. Чернявская.***

*Главному редактору газеты "Жыццё Палесся" Л. П. Чёрнай*
*ЗАЯВЛЕНИЕ*
*ЖСК – 25 "Квадра" просит Вас не отредактировать наше письмо, а напечатать в газету такое, какое оно есть, под тем же названием "Хождение по нервам" и с теми же рисунками, что были опубликованы 1 марта 2000г.*
*Правление ЖСК.*

Спасибо, Владимир Журавлев, за то, что Вы подняли нашу проблему в газете, вынесли на всеобщее обсуждение. Говорят, не было бы счастья, да несчастье помогло. Может и нам как-то поможет Ваша статья. В ней Вы пишете, что мы жалуемся во все инстанции, потому что мы против пристройки магазина к нашему дому, хотя нарушений в размещении пристройки, как утверждают, нет. Права членов ЖСК –25 "Квадра" данным строительством не нарушены. Но это как сказать?!

Мы против строительства магазина на тех условиях, которые существуют на данный момент. Вы хотите узнать риторический вопрос "ПОЧЕМУ?". Мы этого не скрываем и если бы Вы снизошли хотя бы до того, чтобы спросить об этом у председателя или членов правления нашего дома, то Вам бы ответили на все вопросы. Но, так как мы до сих пор и сами толком не получили ответа на наши вопросы, может хоть через Вашу газету нам удастся это сделать, т.е. получить конкретные ответы на конкретные вопросы.

1.Если земля возле нашего дома не наша, то почему мы в течение 4 лет платили за 0,5 га земельный налог в налоговую инспекцию (у нас есть все документальные подтверждения по платежам)?

2.Почему ЖСК – 25 не поставили в известность, хотя бы из чисто джентельменских соображений, если землю выделили ПТК "Белснабсервис"?

3.Почему не поставили в известность налоговую инспекцию, чтобы нам не выставляли налог на землю, уже не принадлежащую нам? Или ПТК "Белснабсервис" нуждается в благотворительной поддержке 143 жильцов нашего дома? Так к нам вообще по этому поводу никто не обращался?

4.Почему наше письменное обращение оказалось зарегистрировано в исполкоме раньше, чем ПТК "Белснабсервис" получил разрешение на строительство магазина (решение исполкома от 27. 12. 99 г.), если всё утверждено в установленном порядке, как пишете Вы, Владимир Журавлёв?

5.Если к нашему дому сделают пристройку магазина, то мы не сможем сами распоряжаться своими же коммуникациями, если вдруг где-то прорвёт труба, куда бежать, кого искать?

Я (мы) кратко изложили почему 105 квартир против строительства магазина. Нам жить в этом доме, который мы построили за свои кровные деньги всю жизнь и никто, кроме нас самих не будет отстаивать наши права. И так ли уже наши требования о переносе застройки необоснованы, как пишете Вы, Владимир Журавлёв?

"Да не судите и не судимы будете" – это, по-моему, тоже что-то из Книги Книг – Библии, которую Вы используете в своей статье.

Прежде чем выставлять нас, жильцов дома №109 по Б. Юности "монстрами", которые не хотят блага своему микрорайону, постройку магазина, надо было бы Вам разобраться о чём идет речь. Вы ведь всё-таки журналист не какой-то бульварной газетёнки, а нашей местной, как говорят, "4 власти"!

Да, кстати, о булочках.

Уважаемые жители нашего заброшенного микрорайона, мы не против того, чтобы ваши и наши дети покупали булочки в магазине, не рискуя жизнью. Если хорошо посмотреть на фото, которое напечатано, то можно увидеть, что дети бегут в школу, которая находиться за магазином "Абсолют", а не за, так называемыми, булочками. С ранцами за плечами за булочкой, я думаю, ни один родитель не отправит своего ребёнка по такой грязи, которая находится за детьми и через ту автодорогу, которую перебегают дети. Большое спасибо фотографу Валентину Овчинникову за то, что он заснял, как ходят наши дети в школу. Ему бы ещё заснять и ту грязь, по щиколотку, по которой мы ходим на работу и водим своих детей в школу, детсад и возвращаемся обратно. Обратил бы он внимание на то, что эта улица не освещена ни одним фонарем, нет пешеходного перехода напротив магазина "Абсолют", нет знака "Осторожно дети", т. к. за магазином находится 2 школы, № 11 и № 13, куда ходят наши дети.

По тому же генеральному плану застройки микрорайона, почему-то нет до сих пор ни одного пешеходного пере-хода из нашего, всеми заброшенного микрорайона, в более менее благоустроенную часть нашего города, где находятся школы, остановки и, увы, магазины. Я думаю, Вам бы сказали спасибо не только жильцы дома № 109 по Б. Юности, но и жильцы всего микрорайона. Если бы все эти проблемы были подняты в газете.

Уважаемые жители нашего города!

Так ли уж наши требования необоснованны? Так ли права членов ЖСК – 25 "Квадра" данным строительством не нарушены?

Мы готовы выслушать и принять ваши советы, предложения, пожелания, юридическую консультацию и помощь всех, кого затронула эта статья "Хождение по нервам" и через газету и через наше правление.

**Наш адрес: Б. Юности, 109, 2-ой подъезд, комната правления, каждое воскресение с 17:00 – 18:00**

***ПравлениеЖСК – 25 "Квадра".***
*март,2000 г.*

*Сохранена стилистика авторов письма.*

**От редакции:**

Ознакомившись с имеющимися документами ЖСК-25, ответами структур, куда обращались жильцы, становится обидно за бесправие одних и стыдно за структуры и органы которые несмотря на Букву Закона прикрывают наглость других.

*Налоговая инспекция исчисляет налог за землю с ЖСК-25 "Квадра" с 1997 года за площадь 0,5 га. по данным землеустроителя горисполкома.

*По окончании строительства дома акт на пользование землёй ЖСК-25 не выдавался, несмотря на неоднократные обращения правления ЖСК.

*Планировка блока культурно-массовой работы предусматривалась в торец здания, но никак не под окнами жильцов.

*Без разрешения собственника используется его собственность: долбится фундамент, подключение к коммуникациям и т. д.

НАРУШЕНЫ:

Гражданский кодекс – ст. ст. 210, 236.

Кодекс "О земле" – ст. ст. 7, 27, 30, 51, 66.

Права жильцов: жилищный кодекс – ст. 9, абзац 1, п. 10; ст. 152.

***Вопрос по соблюдению прав жильцов передан в правозащитный Центр «Весна-96».***

ЗАКОН, ЭТИКА, КУЛЬТУРА...

# УЧИТЕЛЬ: СКАЖИ «НЕТ», СТАНЬ РЯДОМ, БУДЕМ ВМЕСТЕ!

Стах Мозырский.

Начинается новый учебный год. Хватило ли нашим школьным работникам двух месяцев на восстановление сил? Вынужденные едва сводить концы с концами, все они вкалывают больше положенной нормы. Потому как соответствующего этой норме оклада хватит разве что за квартиру заплатить, да хлеб раз в месяц купить.

Не верите? ПОСМОТРИТЕ!

***СООТНОШЕНИЕ***

***размера должностного оклада с минимальным потребительским бюджетом***

| *(тыс. руб.):* | *"технички"* | *учителя* |
|---|---|---|
| **минимальный потребительский бюджет** | 39,9 | 39,9 |
| *оклад уборщика без стажа* | *10,2* | |
| ***оклад молодого специалиста*** | | *14,8* |
| *оклад уборщика со стажем свыше 15 лет на 1,5 ставки (с учётом выплат за труд с дезинфицирующими средствами)* | *21,4* | |
| ***оклад учителя со стажем (учитель высшей категории, имеющий не менее 15 лет педагогического стажа)*** | | *30,6* |
| **Бюджет прожиточного минимума** | 23,6 | 23,6 |

**На какие средства кормить собственных детей? Как их воспитывать, не видя целыми днями?**

Да, учителей искренне жаль, когда слышишь об их нищенской зарплате, о нехватке учебников и методических пособий, средств на ремонт школ и т. д.

***А что же Вы делаете, чтобы исправить это положение? Где Ваша солидарность, единство, взаимопомощь*** – те качества, которым **Вы** учите своих учеников?

**И такими уж жертвами Вы являетесь в сложившейся ситуации?**

В конце концов, именно учителя являются агитаторами и составляют большую часть участковых избирательных комиссий – и на выборах, и на референдумах. Именно **Ваша** пассивная позиция, **Ваше** соглашательство с имеющими место нарушениями закона, подтасовками и привели в конечном счете **Вас** к нынешнему положению.

Как можно понимать: *уча и воспитывая детей умному, доброму, вечному учителя, не имея удостоверений членов инициативной группы, собирают подписи (родителей своих учеников!) за кандидата в, так называемую, Палату представителей Малофеева А. А. Ведь многие учителя являются членами участковых избирательных комиссий! А это уже уголовное преступление!*

**Господа учителя! Где же Ваша мораль, этика, культура? Чему Вы можете научить детей?** Последствия совершенных **Вами** поступков дадут осебе знать в поступках наших и ваших детей.

**Лицемерие, двурушничество, соглашательство** – такая же позиция и у многих врачей, пенсионеров, рабочих, офицеров, официальных профсоюзов.

***Заглядываете ли вы в будущее? Думаете ли о том, что ждет ваших детей и внуков во времена, когда вас не будет, или же меряете дни только пределами собственной жизни? Видите ли вы будущую Беларусь в Европе? Видите ли зеленые пущи, голубые озёра, светлые просторные города, щедрые нивы, или только водпроводный кран с холодной ржавой водой, на оплапту которой должно хватить вашей зарплаты, пенсии?...***

ОТВЕТЬТЕ САМИ СЕБЕ ЧЕСТНО НА ЭТИ ВОПРОСЫ и...

**НЕ ДАЙТЕ СЕБЯ ОБМАНУТЬ!**

## Мысли вслух...



*от Александра Григорьевича.*

***"Нам нужна такая демократия, чтобы человек на свои небольшие денежки мог купить немного хлебушка, сметаны, иногда кусочек мяса, чтобы накормить ребёнка. Ребёнок много не ест. Главное не пейте горелки и не курите..."***

***

***«Рост цен и инфляция будут остановлены. С 1 сентября 1994 года цены будут заморожены...»***

***

***"Жизненый уровень, который сегодня у белоруского народа по разным причинам ниже колена, ещё ниже быть не может..."***

## ВЕРАСЕНЬ - месяц свят ведаў і беларускага пісьменства і друку

### МАСТАЦТВА БЫЦЬ ЧЫТАЧОМ.



*Піскун*
*Людміла Аляксееўна,*
*старшыня Мазырскай гарадской арганізацыі Таварыства Беларускай мовы імя Ф. Скарыны*

З кнігай – найвышэйшым стварэннем розуму – чалавек не развітваецца з дзяцінства і да глыбокай старасці. Кажуць, што паэтам трэба нарадзіцца, прамоўцам можна стаць. А чытачом? На першы погляд пытанне можа паказацца дзіўным. Але гэта далёка не так. Нездарма вялікі Гётэ гаварыў, што ўсё жыццё вучыўся чытаць, аднак і не авалодаў гэтым мастацтвам спаўна.

Безумоўна, кожная кніга – непаўторная, арыгінальная, а нашы запыты, патрабаванні, інтэрэсы і густы бясконца разнастайныя. Таму праблема, як чытыць мастацкую літаратуру, што чытаць толькі здаецца простай. Літаратура – гэта лёсы людзей, гэта рэчаіснасць з рознымі перашкодамі, складаюнасць і глыбіня псіхалогіі асобы, адлюстраванне гістарычнай праўды жыцця, шматграннае адлюстраванне свету, у цэнтры якога – чалавек.

Як у працэсе чытання адкрываць непаўторны свет чалавечых пачуццяў, спасцігнуць складанасць паміж героямі твораў? Як узбагачаць свае веды? Як выцягнуць з мёртвай літары жывую, каштоўную думку? Як лепей выхаваць сябе? Зразумець культуру свайго народа?

Адказы на гэтыя і іншыя пытанні можа знайсці той з чытачоў, хто не "глынае" падрад кнігі, убіваючы час за беглым праглядваннем усяго, што трапляецца пад рукі.

Сёння робіцца многае для таго, каб мы лепей зразумелі і нацыянальную культуру мінулых стагодзяў, пазбавіліся нігілізму. Дзеля гэтага вяртаюцца з небыцця матэрыялы, кнігі, якія знаходзіліся доўгі час у "спецархівах". Шматлікія беларускія выданні кнігі, газеты, часопісы – праводзяць думку аб нацыянальным адраджэнні.

А ці купляем мы, жыхары Мазыра, беларускія часопісы, кнігі?

Бяспрэчна, што яшчэ ніколі ў свеце не стаяла даволі востра, як сёння, праблема маральнага выхавання чалавека. Нагадаем, што ў барацьбе за сэрцы, за духоўны воблік людзей вялікую ролю адыгрывае кніга. Але якая кніга? – Класічная, у вышэйшай ступені гуманная, зразумела. З гэтых пазіцый найперш успомнім кнігі Купалы, Коласа, Максіма Багдановіча, Панчанкі, Танка, Лойкі, Навуменкі, кнігі рускіх класікаў і лепшыя дасягненні класікаў сусветнай літаратуры.

Іх творы былі і застаюцца маральнай апорай чалавека. І мы, безумоўна, чытаем і перачытваем класіку, лепшыя сучасныя творы. Нашы дзеці, моладзь таксама чытае. І гэта не выклікае ніякага сумнення.

Але якія кнігі моладзь чытае? Вось задача...

Сам факт пастаноўкі такой задачы сведчыць пра тое, што ў гэтай галіне далёка не ўсё ўдачна, не ўсё нармальна. І падстаў, прычын для такіх хваляванняў – колькі хочаце. Вось, адна з іх: сёння, так званыя "кніжныя бізнясмены" без пачуцця сціпласці сораму адкрыта дэманструюць выданні эратычных і сексуальных кніг. І моладзь наша купляе гэтую літаратуру, хаця каштуе яна "не па кішэні".

А між іншым, зазірніце ў кнігарню "Светач", дзе заўсёды многа пакупнікоў. Большасць з іх – сапраўдныя чытачы, людзі, якія шукаюць класічную, стаўшую, на жаль, дэфіцытнай, кнігу, такую, якая найбольш адпавядае нашым інтэрэсам і густам.

Знаёмімся. Ніна Пятроўна Бабарыка, жыхарка Мазыра. Пра сябе яна сказала, што ў сучасны момант часова не працуе, знаходзіцца ў адпачынку па дагляду дзіцяці. Асабіста яна любіць чытаць раманы Шамякіна, кнігі Быкава, Караткевіча, Навуменкі. А зараз набывае кнігі Гілевіча, аповесць Навуменкі "Дзяцінства". – Няхай і дзеці пачытаюць.

Згадзіцеся, што знаёмства з цікавай кнігай, лепшымі творамі мастацтва, аб"ектам якіх з"яўляецца чалавек, дае выключную магчымасць пазнання чалавека чалавекам. "Чалавек – ёсць тайна, трэба разгадаць яе", - адзназначаў Ф. М. Дастаеўскі.

Вось чаму, калі кожны з нас хоча спасцігнуць другога чалавека, калі ён хоча адчуць пачуццё мастацкай асалоды, пачуццё, якое не можа ўзнікнуць пры другіх сродках пазнання свету, калі ён хоча ведаць гісторыю нацыянальнай культуры, узбагаціць сябе духоўна – бярэ ў рукі ... каштоўную кнігу.

* * *

Зламыснікі, што ёсць і сягоння
ў маім краі,
Імкнуцца Беларусаў спіхнуць
у адчаі
На апошняе месца...
Ніколі такога не стане!
Мову не знішчыць!
Мова – кроў у Беларуса
Такая ж святая.
Яна – Маці
ў сялянскай сям"і моваў.
І не трэба ніякіх
закідаў-змоваў
Шалапутных не трэба
авацый.
Жыве Беларусь!
Жыве мая нацыя!

**Для тых, хто жадае ўступіць у шэраг сяброў ТБМ могуць звяртацца да Людмілы Піскун, старшыні гарадской Мазырскай Рады па тэлефонах: 3 – 43 – 61, 3 – 90 – 91, або ў грамадскае аб"яднанне "Грамадзянскія Ініцыятывы" па тэл. 5 – 00 – 91.**

# ВЫБАРАМ - «ТАК», ФАРСУ - «НЕ».

*3 верасня 2000 года адбылася другая сесія 5 з"езда Аб*яднанай грамадзянскай партыі. Аб тым, якія рашэнні прыняў з*езд, наша гутарка з яго дэлегатам, членам Нацыянальнага камітэта АГП, старшынёй Мазырскай гарадской арганізацыі Л.В.Арловым.*



**Кар.**: *Леанід Васільевіч, як нам вядома, асноўным пытаннем з*езда быў удзел партыі ў выбарах у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Як яно было вырашана і ці не адбілася гэта на адзінстве партыі?*

**Л.А.**: Рашэнне аб адносінах партыі да маючых адбыцца выбараў акрэслена было яшчэ ў красавіку на першай сесіі з*езда. Тады сапраўды былі вострыя дэбаты. Але відавочным было тое, што пры склаўшыхся на той момант умовах партыя вылучаць сваіх кандыдатаў не будзе. Наколькі тэарэтычна абставіны маглі змяніцца ў выніку перамоўнага працэса, канчатковае рашэнне аб удзеле партыі ў выбарах было вырашана прыняць на другой сесіі з*езда. Аднак за гэты час нічога істотнага не адбылося, перамоўны працэс быў, як і чакалася, заведзены ўладамі ў тупік, ніводная з умоў імі выканана не была. Таму ўжо на чацвёртым Кангрэсе дэмакратычных сіл яго дэлегаты ад АГП галасавалі за байкот выбараў. Другая сесія з*езда без хістанняў зацвердзіла гэта рашэнне. Нашы недабразычліўцы ў чарговы раз расчараваныя: партыя стала яшчэ больш маналітнай.

**Кар.**: *Чаму ж усё-такі партыя не ідзе на выбары? Яны ж даюць магчымасць доступу да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі, "раскруткі" сваіх лідэраў, а пры спрыяльных выніках і ўдзельнічаць ва ўладзе? Ці мо партыя адчувае сваю слабасць?*

**Л.А.**: Партыя адчувае сваю сілу. І не толькі партыя, а і ўлада. Менавіта таму АГП і падвергнута апошнім часам самым жорсткім рэпрэсіям. Толькі за апошні месяц Мінюст вынес нам чатыры папярэджанні, якія абскарджаны ў судзе. Варта нагадаць таксама, што за апошні год менавіта АГП панесла найбольш цяжкія страты: раптоўная смерць пры падазроных абставінах Г.Карпенкі, знікненне Ю.Захаранкі, В. Ганчара і А.Красоўскага, "адсідка" У.Кудзінава і А.Клімава. Але ў партыі шмат людзей, якія могуць змагацца і перамагаць на выбарах. На выбарах у Вярхоўны Савет 13 склікання ўжо ў першым туры мандат дэпутата атрымалі 19 членаў АГП і 20 выйшлі ў другі тур. У фракцыю "Грамадзянскае дзеянне" ўвайшлі 24 дэпутаты, ні адзін з якіх не пайшоў працаваць у Палату прадстаўнікоў. Партыя і зараз гатова да выбараў. Але ўдзельнічаць у фарсе яна не будзе і вось чаму.

Па-першае, мы прэтэндуем на ўдзел у рэальнай уладзе. Палата ж прадстаўнікоў такой улады не мае. Яна цалкам надпарадкаваная і падкантрольная А. Лукашэнку. Таму першай умовай удзелу ў выбарах з*яўляецца пашырэнне паўнамоцтваў парламенту, пераўтварэнне яго ў сапраўдны заканадаўчы орган.

Па-другое, прыняты Выбарчы Кодэкс не забяспечвае празрыстасці і сумленнасці выбараў. Выбарчыя камісіі фарміруюцца "вертыкаллю", назіранне абмежавана. Значэнне будзе мець не тое, колькі і як прагаласавалі, а тое, хто і як падлічыць. На такіх "правілах" удзельнічаць у выбарах бессэнсоўна.

Па-трэцяе, палітычныя партыі не маюць доступу да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі. І гаворка ідзе не аб тым, каб атрымаць 1-5 хвілін на БТ, а потым некалькі дзён слухаць каментарыі Зімоўскага, а аб тым, каб доступ да эфіру быў сістэматычным. Дзяржаўныя СМІ фінансуюцца з кішэні падаткаплацельшчыкаў, у тым ліку і апазіцыйных, таму і іх думка мае права на дзяржаўны эфір.

Па-чацвёртае, не могуць быць выбары свабоднымі і дэмакратычнымі ва ўмовах рэпрэсій з боку ўлад. Я ўжо прывёў канкрэтныя прыклады. Іх можна бясконца прадоўжыць. Іх адчувае на сябе не толькі апазіцыя, а і шэраговыя выбаршчыкі, іх баіцца нават "вертыкаль".

Варта заўважыць, што Канстытуцыя і законы прадугледжваюць свабоду выбараў, гэта значыць, што ніхто не мае права прымушаць людзей галасаваць. Але ў нас гэта не так. Законы не забараняюць агітацыю як за, так і супраць удзелу ў выбарах. Але ў нас зноў жа на справе не так.

Зыходзячы з усяго сказанага 6 палітычных партый, у тым ліку АГП, не прызнаюць маючыя адбыцца "выбары" і будуць удзельнічаць у іх шляхам актыўнага байкоту. Гэта значыць, што АГП не застаецца па за межамі выбарчага працэсу, а яе члены будуць актыўна праводзіць сярод насельніцтва тлумачальную работу.

**Кар.**: *У чым будзе заключацца гэта работа і да якіх вынікаў яна можа прывесці?*

**Л.А.**: Улада лічыцца толькі з сілай. Таму трэба даказаць ёй, што сіла ёсць. А гэтай сілай з*яўляецца народ. І калі ён не пойдзе на выбары, то стане відавочным, хто да каго ў апазіцыі. З гэтай мэтай у 22 гарадах з насельніцтвам звыш 50 тысяч будзе праводзіцца акцыя пад назвай "народны рэферэндум". Актывісты палітычных партый дэмакратычнай накіраванасці будуць збіраць подпісы за выкананне патрабаванняў АБСЕ па стварэнні ўмоў для правядзення дэмакратычных і свабодных выбараў. Гэта значыць, што будзе рыхтавацца база для нармальнага правядзення прэзідэнцкіх выбараў у 2001 годзе.

Каб прадухіліць фальсіфікацыю арганізуецца ўнутранае назіранне за выбарамі праз грамадскія аб*яднанні і групы грамадзян. Калі ж улада пойдзе ва-банк і паспрабуе ўсімі праўдамі і няпраўдамі "зрабіць" выбары і неабходны ёй вынік, то задача ў тым, каб усе парушэнні і фальсіфікацыі зафіксаваць і абнародаваць, гэта значыць пацвердзіць несапраўднасць выбараў.

Такім чынам, АГП - не ў апазіцыі да народа, яна з народам, у апазіцыі да яго ўлада, якая імкнецца сілай і хлуснёй навязаць сваю волю.

**Кар.** *Дзякуй за гутарку.*

### Дэмакраты Мазыра - аб,ядноўваюцца

9 ліпеня 2000 года адбыўся сход прадстаўнікоў арганізацый палітычных партый і грамадскіх аб*яднанняў дэмакратычнай накіраванасці г. Мазыра. Удзельнікі схода абмеркавалі склаўшаеся ў краіне і горадзе становішча з правамі і свабодамі чалавека і станам дэмакратыі. Аднагалосна было прынята рашэнне аб стварэнні гарадской каардынацыйнай рады дэмакратычных сіл (ГКРДС), у якую ўвайшлі арганізацыі трох палітычных партый - Аб*яднанай грамадзянскай партыі, партыі Беларускі народны фронт, Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ - і шэрагу грамадскіх аб*яднанняў: "Грамадзянскія ініцыятывы", "Беларускі рэспубліканскі клуб выбаршчыкаў", "Беларускі Хельсінскі камітэт", Беларускі народны фронт "Адраджэнне" і іншых. Рада адкрыта для ўступлення ў яе іншых арганізацый, статутныя мэты якіх і дзеянні накіраваны на стварэнне ў нашай краіне прававой дзяржавы і адкрытай грамадзянскай супольнасці.

*Л.Арлоў, сустаршыня ГКРДС*

ВЫБОРЫ - 2000

# ВЫ ХОТИТЕ ДОСТОЙНОЙ ЖИЗНИ?



***Владимир Телепун,***
*редактор бюллетеня «Мазырскія Ведамасці»*

80% населения Беларуси имеют уровень доходов ниже минимального потребительского бюджета. Это значит, что из 10 миллионов жителей Беларуси – 8 миллионов нищих. Зато основным аргументом сторонников режима является фактор стабильности в обществе.

И это так! **Что мы сегодня имеем?**

Показателями стабильной обстановки в нашем обществе стали:

- стабильное падение уровня жизни;
- стабильно пенсионеры еле сводят концы с концами чтобы прожить;
- стабильно в аптеках, больницах не хватает лекарств;
- стабильно власти расправляются с инакомыслящими – людьми которые высказывают свой взгляд на обстановку в стране;
- стабильно власть не может справиться с похищениями и убийствами людей;
- стабильное повышение цен ...

***Цены уже и не кусаются. Они грызут до самых костей. Как голодные волки.*** А власти равнодушно смотрят на всё это. Она абсолютно не способна, не может и не умеет помочь своим гражданам и создать соответствующие условия для достойной и безбедной жизни.

У нас стабильные ежегодные программы и обещания президента и его карманных депутатов.

И их стабильный постоянный обман народа, стабильная пропаганда хамства, дезинформации, популизма.

И Вы хотите чтобы это всё продолжалось дальше?

Соотечественники!

Настало время определиться и решить: **"Что надо сделать, чтобы наша жизнь стала лучше?"**

Чтобы она стала такой – какой **мы** хотим её видеть, такой – в которую **мы** верим.

Это – достойная жизнь. В достатке и уверенности в завтрашнем дне для нас и наших детей.

**Что надо сделать?**

- определиться каждому граждани-ну, каждой семье, всему народу: - **"Беларусь – наш общий Дом** или *проходной двор, пристройка для других государств?";*
- народ Беларуси – это не только белорусы, но и русские, украинцы, поляки, евреи, татары и другие национальности, проживающие на этой территории.

Представитель каждой национальности народа Беларуси должен отве-тить себе: - **"Что для него, его семьи, его детей - Беларусь?"**

Без этого нельзя построить стабильную, богатую и независимую нашу общую Родину – Беларусь;

- ***мы, народ Беларуси, должны заставить власть, государство не только устанавливать равные для всех правила, но и соблюдать их. В первую очередь - самой власти. Равные правила в государстве – это Закон, это конституционная дисциплина и порядок, это уверенность в неизменности установленных правил кем бы то нибыло, это гарантия безопасности наших семей и собственности граждан.***

В каждой нашей семье мы должны обрести и воспитать патриотизм, национальное достоинство к нашей общей Родине – Беларуси.

Без всего этого всем нам придётся забыть и о суверенитете, и о достой-ной, спокойной жизни.

Не участвуя в фарсе 15 октября, ты покажешь власти своё отношение к проводимой ею антинародной политике.

* * *

Працяг, пачатак на стар.2



Адбываецца мэтанакіраванае знішчэнне ўсяго беларускага, у першую чаргу культуры, школы, друку, навукі і кадравай сістэмы.

Адбываецца мэтанакіраванае выцясненне беларусаў з усіх кіруючых пасадаў. Асабліва – у сістэме ўлады. Адносіны да беларусаў з боку рэжыму, яго спецатрадаў, міліцыі, адміністрацыі і ахоўнікаў цалкам – палітычна і лагічна – абумоўленыя. Гэта ёсць дачыненні з акупаваным насельніцтвам на акупаванай тэрыторыі. Маўляў, акупаванае насельніцтва не мае ніякіх правоў, з акупаванымі людзмі можна абыходзіцца, як з жывёлай, бо ўсе яны – "ворагі Расіі". Гэта ж назіраецца ў Чачні. Гэта ж назіраецца і ў Беларусі.

Гэтыя абразлівыя гульні акупацыйнага рэжыму, усё гэтае саманадзьмуванне выглядаюць ***нікчэмнымі перад народнай сілай.*** Але вялікая беларуская сіла яшчэ не прачнулася. *Яшчэ не ўсе беларусы адвыклі баяцца.*

**З акупацыйным рэжы-мам трэба змагацца. Іншага выйсця няма. Альбо нас вынішчаць варвары, альбо мы абаро-нім свабоду і незалеж-насць Беларусі – пераможам.**

**І памятайце: нашае яднанне – гэта *БЕЛАРУСКАЯ САЛІДАРНАСЦЬ.* Беларусы павінны падтрымліваць адзін аднаго ў змаганні з акупацыйным рэжымам, у абароне свабоды і незалежнасці нашай Айчыны.**

(*Перадрукавана са скарачэннямі. "Народная Воля", 30.08.2000 г.)*

Мазырскія Ведамасці
Інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь Мазырскага аддзялення грамадскага аб,яднання «Грамадзянскія Ініцыятывы»

Рэдактар: **Уладзімір Целяпун**
**тэл. 4 - 89 - 45**
**Наклад 299 асобнікаў.**

Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранай дакументацыі аб,яднання.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з пазіцыяй аўтараў.